Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# ЗВЯЗДА




12 мая 1991 г. НЯДЗЕЛЯ

Газета выдаецца са жніўня 1917 года

Орган Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР

№ 91 (21619)

Цана 10 кап.

Час лечыць раны, раўняе акопы і варонкі пад зялянінай палёў, а свята Перамогі з гадамі не страчвае сваёй велічы. Для цяперашняга і наступных пакаленняў савецкіх людзей подзвіг герояў, якія выратавалі Радзіму і ўвесь свет ад фашысцкага нашэсця, назаўсёды застанецца ўзорам вернага служэння Айчыне.

З памяццю аб загінуўшых, з кветкамі для ветэранаў-пераможцаў выйшлі 9 мая на плошчы і вуліцы беларускай сталіцы тысячы мінчан і гасцей горада-героя.

Пасля традыцыйнага ўскладання кветак да помніка У. І. Леніну на плошчы яго імя былыя франтавікі, працаўнікі тылу разам з кіраўнікамі Вярхоўнага Савета і ўрада рэспублікі, партыйных і савецкіх органаў, военачальнікамі, прадстаўнікамі працоўных калектываў урачыстым маршам прайшлі па Ленінскім праспекце на плошчу Перамогі.

Удзельнікі цырыманіялу мінутай маўчання ўшанавалі светлую памяць воінаў, партызан і падпольшчыкаў, якія аддалі жыццё за перамогу. Да падножжа манумента-абеліска і Вечнага агню ляглі кветкі і вянкі.

У той жа дзень урачыстасці з выпадку Дня Перамогі адбыліся ля Кургана Славы па Маскоўскай шашы, на мемарыяльным комплексе «Хатынь», ля абеліска «Мінск—горад-герой».

***

Святочныя мерапрыемствы прайшлі ва ўсіх гарадах і вёсках Беларусі.

(БЕЛТА).

# НІЗКІ ПАКЛОН ВАМ, ПЕРАМОЖЦЫ!

**НЕКАЛЬКІ НАЗІРАННЯЎ ПАД ГУКІ СВЯТОЧНЫХ МАРШАЎ**

Газеты, заўважце, часцей расказваюць пра салдатаў, што ўзнімалі сцяг над рэйхстагам; пра вядомых палкаводцаў; пра легендарных камандзіраў партызанскіх атрадаў. Не дзіва ж — кожнаму вядома, што яны здзейснілі. Подзвіг прыкметны нават з далячынь часу. Ён ззяе.

Але ці не зацьміла тое ззянне ад нас вайну — ва ўсім яе аб'ёме, ва ўсёй паўнаце велізарнай народнай трагедыі? Бо сцягі на ўзнятых вышынях замацоўвалі адзінкі. Усцілалі подступы да вышынь—мільёны. Няхай і далёка былі ад гэтых вышынь.

*...Плошча Леніна. Ранак. Бляск узнагарод, якія ў гэты дзень не саромеюцца паказаць ветэраны. Кветкі і музыка. Радасць ад кожнай новай сустрэчы са знаёмымі: дажылі, дайшлі! Паўвека з вайною ў параненых ёю сэрцах.*

**Сяргей СІНЯКОЎ, палкоўнік у адстаўцы:**

**— Першыя баі мы пачалі весці ў 12 гадзін 22 чэрвеня сорак першага пад Львовам. Страты неслі вельмі вялікія — неабстраляныя былі людзі, ды і не было чым ваяваць супраць танкаў. Я ваяваў на 122-міліметровай гаўбіцы. Снарады былі, а ўзрывальнікаў да іх не было. Так і стралялі — прамой наводкай, без узрывальнікаў: трапілі балванкай снарада па вежы танка ці па гусеніцы— добра, не трапілі —расстраляюць ці раздавяць цябе.**

*Сяргей Сінякоў патрапіў балванкай па танку. Да тых, хто не патрапіў, адпраўляецца калона ветэранаў праз расквечаны горад. Кожны нясе да Вечнага агню свой агонь — у сэрцы. Дзе гарачэй?*

**Марыя ПЫЖ, удзельніца вайны:**

**— Вярнулася я з вайны на сваю Піншчыну — спалілі маю радзіму немцы. Хаты няма, сад пасеклі да дрэўца, студню спаганілі, усё паглумілі. Муж мой на вайне застаўся — навечна... Не было за што рукі і душу зачапіць. Паехала ў Мінск. Тут і жыву—адна. Восьмы дзесятак размяняла...**

У вайну яна называлася — баец. Ваявала больш на пякарні—спачатку партызанскай, потым пайшла з часцю на Захад. Закончыла вайну ў Берліне. Што здзейсніла? Хлебам карміла армію. Бялізну мыла. Вярнулася—і расказваць быццам няма чаго. Ды і каму? Вакол гаварылі пра подзвігі, пра колькасць збітых самалётаў і знішчаных ворагаў. Але як растлумачыць, што ў Перамозе—і яе знявечаны лёс? Жыццё—яно адно і ў генерала арміі, і ў сялянкі, пазбаўленай роднага селішча. Ці адзываецца наша сэрца разуменнем і болем за іх лёс пры гуках ваенных маршаў?

**Капітан КІСЯЛЁЎ, два гады служыў у Афганістане, узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі:**

**— Паглядзіце навокал, і вы зразумееце ўсё самі. Хто прыйшоў сёння на плошчу? У асноўным тыя, хто ваяваў, хто ведае, што гэта такое — вайна.**

Чаму ж нас на святочнай плошчы ў выхадны дзень людзей намнога менш, чым, напрыклад, на толькі што адкрычаўшых тут мітынгах? Куды падзелася наша бязмежная ўсеагульная радасць у гэты дзевяты дзень мая?

**Уладзімір БАЛЫКІН, курсант Мінскага суворaўскага вучылішча:**

**— Так, Дзень Перамогі сёння не вельмі яркі, не вельмі ўрачысты. Раней людзей значна больш было. Ды і саму Перамогу ацэньваюць сёння па-рознаму, нават у адной і той жа сям'і. «Дзед, навошта ты ваяваў?» Разумееце, час быў раней іншы—ваявалі за Радзіму, за Сталіна. Людзі верылі ў іх—у Радзіму, Сталіна, сябе. А што маем сёння? Дэмакратыю, перабудову? Не надта канкрэтныя і абнадзейваючыя рэчы. Людзі перастаюць верыць у гэта.**

Я зайздросціла маладому курсанту, чягледзячы на тое, што не з усімі яго думкамі магла пагадзіцца. Ён разважаў аб вайне. Ён спрабаваў зразумець яе і сябе ў сённяшнім дні. Як адказвалі на такія пытанні ў яго ўзросце мы, сённяшнія 30-гадовыя? Успаміналі пра вялікі подзвіг савецкага народа. Пра мужнасць байцоў і камандзіраў. Пра кожнага чацвёртага загінуўшага жыхара сваёй рэспублікі. Мы былі бліжэй да вайны (па часе). Але ці былі бліжэй—па разуменню? Не толькі вялікага подзвігу, а велізарнай трагедыі, што перайначыла лёсы цэлых народаў, а заадно і мільёнаў канкрэтных людзей, якія прыйшлі на зямлю з адзінай мэтай—жыць, удасканальваць нашу цывілізацыю?







За час работы ў раёнцы мне неаднойчы даводзілася пісаць пра Васіля Міхайлавіча Касцючэнку, гвардзейца-мінамётчыка, што прайшоў вайну ад Прыбалтыкі, Масквы да Берліна. Ён прынёс з вайны унікальны дакумент — франтавы дзённік. Яго любілі цытаваць усе, хто пісаў ці расказваў пра франтавіка. Ваяваў Васіль Міхайлавіч на легендарнай «кацюшы», асвойваў зброю пад Масквой у канцы 41-га. Што ні старонка ў дзённіку, то новы бой: з дакладным пералікам выпушчаных снарадаў, страт, панесеных гітлераўцамі,—у жывой сіле і баявой тэхніцы. Ён занатоўваў тое, што лічыў галоўным.

(Працяг на 2-й стар.).

# ПРАВІЛЬНЫ ГРАМАДЗЯНСКІ ВЫБАР

## Сустрэча ў Крамлі М. С. Гарбачова з юнармейцамі

Георгіеўская зала Крамля, зала ратнай славы нашай Айчыны, стала ў Дзень Перамогі, 9 мая, месцам сустрэчы Прэзідэнта СССР М. С. Гарбачова з прадстаўнікамі Усесаюзнага юнармейскага руху. Яны прыехалі ў Маскву з розных рэспублік краіны.

На гэту сустрэчу разам з Прэзідэнтам прыйшлі Старшыня Вярхоўнага Савета СССР А. І. Лук'янаў, міністр абароны СССР Маршал Савецкага Саюза Д. Ц. Язаў, намеснік старшыні Савета абароны пры Прэзідэнце СССР А. Д. Бакланаў, камандуючы Усесаюзным юнармейскім рухам генерал-лейтэнант Г. Ц. Берагавой, іншыя военачальнікі, дзяржаўныя і палітычныя дзеячы, ветэраны вайны, прадстаўнікі грамадскасці. Была Р. М. Гарбачова.

Многа слаўных спраў на рахунку ўдзельнікаў руху, праз які вядзецца велізарная работа па патрыятычнаму выхаванню дзяцей і падлеткаў. Паходы па месцах баявой славы савецкага народа, клопаты аб ветэранах вайны і працы, пошук безыменных абаронцаў, фізічная загартоўка, знаёмства з гістарычнымі і культурнымі выдатнымі мясцінамі нашай многанацыянальнай краіны... Аб гэтых і іншых справах юнармейцы расказвалі Прэзідэнту. Расказы гэтыя былі кароткімі і вельмі непасрэднымі, шчырымі. І хто б ні браў слова — прадстаўнік з данскога краю, або з уральскай зямлі, або з Сярэдняй Азіі,—праз усе выступленні чырвоным радком прайшло запэўніванне, што ў гэты цяжкі час у асобе юнармейцаў Радзіма, справа перабудовы, асабіста Прэзідэнт заўсёды знойдуць верную падтрымку.

Яшчэ юнармейцы гаварылі, што вельмі хацелі б выдаваць уласны часопіс і мець у Маскве музей руху, прасілі аказаць ім у гэтым садзейнічанне.

Аб пачуцці высокага патрыятызму, якое выклікае прыйшоўшая ў Георгіеўскую залу маладая змена, гаварыў у сваім выступленні камандуючы паветрана-дэсантнымі войскамі генерал-лейтэнант П. С. Грачоў.

Дарагія сябры! — звярнуўся да юнармейцаў М. С. Гарбачоў.

Я шчыра, сардэчна ад імя ўсяго кіраўніцтва краіны і Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза вітаю вас у гэтай цудоўнай зале ў Крамлі, у сэрцы нашай вялікай Радзімы!—працягваў ён. — Вітаю і ўсіх вашых, скажу так, аднапалчан, якія засталіся дома.

Ваш рух адлюстроўвае настроі нашага маладога пакалення, якое гатова служыць сваёй Айчыне і ўсведамляе сваю адказнасць за лёс дзяржавы. І тое, што гэта сустрэча адбываецца сёння, у такі знамянальны дзень, падкрэслівае пераемнасць пакаленняў.

Так, наш народ заваяваў вялікую перамогу. Цяжкую перамогу. І ўсе мы ганарымся ёю. Падзяляю сказаныя тут словы павагі і ўдзячнасці, звернутыя перш за ўсё да нашых ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. Цалкам далучаюся да гэтых слоў і рад разам з вамі ўшаноўваць пераможцаў 45-га года, франтавікоў і тых, хто каваў перамогу ў тыле. Аддадзім належнае гэтаму гераічнаму пакаленню. Перамогшы, гэтыя людзі здзейснілі, здавалася б, неверагоднае.

Перамога запатрабавала такіх ахвяр, такіх намаганняў, якія абавязваюць нас з вамі заўсёды памятаць аб іх. І заўсёды быць здольнымі абараніць сваю краіну, каб ні ў каго не паявілася спакусы выпрабаваць нашу сілу. Таму я разам з вамі хачу вітаць тут міністра абароны, генералаў і афіцэраў і ў іх асобе Узброеныя Сілы Савецкага Саюза, усю нашу слаўную Савецкую Армію і Флот.

Для нашых народаў заўсёды было ўласціва аддаваць належнае ўсім тым, хто ў цяжкія дні становіцца на бок справядлівай справы. І я хачу разам з вамі сёння ўспомніць добрым словам прадстаўнікоў усіх народаў, якія ўнеслі свой уклад у нашу агульную вялікую перамогу, і вітаць адсюль, з Георгіеўскай залы Крамля, усе народы антыгітлераўскай кааліцыі, усіх людзей добрай волі, якія змагаліся з фашызмам. Няхай яны пачуюць. Мы з вамі маем мандат на тое, каб сказаць: мы помнім гэта баявое супрацоўніцтва, якое павергла ў прах фашызм. Мы застаёмся вернымі тым словам, тым узаемным запэўніванням, якія былі сказаны на Эльбе і іншых сустрэчах у тыя пераможныя дні мая 1945-га.

Як Прэзідэнт, хачу сказаць вам, дарагія юныя сябры, вялікае дзякуй за тое, што вы робіце, перш за ўсё за клопаты аб ветэранах. І за тое, што вы робіце для захавання памяці аб подзвігу тых, хто даў нам гэту перамогу, магчымасць працягваць жыць, будаваць, перадольваць цяжкасці і ісці наперад.

Цудоўна, што добрыя патрыятычныя пачуцці праявіліся ў вас у вашы раннія гады. Упэўнены, вы захаваеце іх на ўсё жыццё, і віншую вас з гэтым грамадзянскім выбарам. Гэта тая вышыня маральная, на якой я вам жадаю застацца заўсёды, як бы ні цяжка вам прыйшлося ў вашым жыцці. Захавайце гэты выбар, святы выбар, які вы зрабілі цяпер, стаўшы ў рады юнармейцаў. Дзякуй вам яшчэ раз.

Удвайне рад гэтай сустрэчы яшчэ і таму, што тут прысутнічаюць прадстаўнікі нашых рэспублік, самых розных нацыянальнасцей. Гэта яшчэ адзін вельмі важны добры сімвал, знак дружбы, той святой справы, якая нас заўсёды выручала на самых цяжкіх паваротах нашай няпростай гісторыі, гераічнай, але і драматычнай. Захоўвайце гэту дружбу, працягвайце яе. Спадзяюся, вы будзеце перапісвацца, раскажыце аб гэтых сустрэчах сваім сябрам.

Ведаю, пасля гэтай сустрэчы ў кожнага з вас прыбавілася сяброў, і з гэтым я вас віншую. Нічога няма больш вялікага, чым ідучы па жыцці, адчуваць побач з сабой верных сяброў. Тады ўсё лягчэй. Я вас з гэтым віншую. І вельмі важна, што вы, маладыя, так дастойна прадстаўляеце ўсе народы нашай краіны. Бо, на жаль, некаторыя нават, ну, скажам так, пажылыя і нават вельмі пажылыя «дзядзькі» і «цёткі» ўжо не заўсёды ўмеюць рабіць гэта так дастойна, як многія пакаленні, і не толькі ў папярэднія дзесяцігоддзі, але і стагоддзі ў гэтай краіне, дзе жывуць сотні народаў. Вы малайцы, таму што вы зразумелі галоўнае—трэба быць разам. Гэта вельмі добра. Захавайце гэта і нацыянальную годнасць, але асцерагайцеся чумы нацыянальнай фанабэрыі і высакамер'я. Сябруйце. Вось да гэтага я вас заклікаю.

У гэты наш вялікі час перабудовы—а гэта няпросты час—нам патрэбны міласэрнасць, дабрыня, спагада, праніклівасць. Тое, што вы робіце, гэта і выхоўвае ў вас іменна такія якасці. Я жадаю паспяховага прадаўжэння вялікай справы, удзельнікамі якой вы сталі ў свае юныя гады. Нясіце сцяг юнармейцаў, высока і моцна яго трымайце. Мы зусім не рыхтуем з сябе людзей, якія плануюць заваёўваць нейкія чужыя тэрыторыі. Не. У нас зямлі шмат, прасторы нашы велізарныя. У нас на тысячу гадоў усё ёсць для таго, каб усе нашы народы развіваліся. Але мы павінны думаць аб тым, рабіць усё, каб спакойна і шчасліва было ў нашым доме.

Ну і самае галоўнае: я ваш рух разглядаю як рух, у якім дзеці, юныя сэрцы знаходзяць сяброў, набываюць шмат новага, пазнаюць значэнне пераемнасці пакаленняў у нашай няпростай гісторыі і самі знаходзяць сваё месца ў жыцці. Вось у гэтым я бачу самы галоўны сэнс гэтага руху і вітаю вас, а таксама вашых настаўнікаў—тых, якія тут прысутнічаюць, і тых, якія цяпер разам з вашымі сябрамі, напэўна, ідуць да Вечнага агню, каб пакланіцца подзвігу нашага народа ў Вялікай Айчыннай вайне.

Выказваю велізарнае задавальненне гэтай сустрэчай, вітаю вас яшчэ раз у Крамлі. Хачу, каб вам гэтыя дні запомніліся назаўсёды. Вялікіх вам поспехаў у вашых справах.

Сустрэча завяршылася агульным фатаграфаваннем на памяць.

(ТАСС).

# ЗАЎТРА МОЖНА ІСЦІ ДАЛЕЙ

Пачынаючы з мінулай восені, калі прафсаюзы Беларусі на сваім з'ездзе рэарганізаваліся ў Федэрацыю, яны вядуць настойлівы дыялог з урадам рэспублікі, дабіваючыся вырашэння найвастрэйшых сацыяльных праблем працоўных. І вось праз паўгода, 8 мая, Савет Міністраў і савет Федэрацыі прафсаюзаў падпісалі пагадненне па працоўных і сацыяльна-эканамічных пытаннях на 1991 год.

Гэты дакумент пацвярджае магчымасць вырашэння складаных праблем не шляхам разбуральнай канфрантацыі, а дзякуючы канструктыўнаму дыялогу. Дасягнута дагаворанасць па самых вострых праблемах: узроўню жыцця, забеспячэнню занятасці насельніцтва, падаткаабкладанню, ахове здароўя людзей, працы і навакольнага асяроддзя...

Пагадненне падпісалі: з боку ўрада — Старшыня Савета Міністраў рэспублікі Вячаслаў Кебіч, з боку прафсаюзаў — старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Уладзімір Ганчарык.

Гэтым актам не завяршылася цяжкая работа. Цяпер трэба будзе рэалізаваць усё тое, аб чым дамовіліся. Для кантролю за выкананнем прынятых рашэнняў будзе створана змешаная камісія. Але абавязковая ўмова жыццяздольнасці пагаднення — стабільная работа прадпрыемстваў і арганізацый усіх галін народнай гаспадаркі рэспублікі.

— Я ацэньваю гэты дакумент як вельмі сур'ёзны, таму што ўрад абавязаны выконваць дагаворанасці. І цяпер над намі, хочам мы таго ці не, паявіўся кантроль з боку прафсаюзаў, — сказаў пасля завяршэння працэдуры падпісання В. Кебіч.— Але мяне задавальняе пагадненне і тым, што прафсаюзы таксама ўзялі на сябе пэўныя абавязацельствы. Я думаю, што дакумент пакладзе пачатак міру і спакою паміж працоўнымі калектывамі і ўрадам.

А вось як пракаменціраваў гэту падзею У. Ганчарык:

— Пагадненне ўлічвае прапановы працоўных калектываў, патрабаванні, якія нарадзіліся ў перыяд забастовак, і таму, спадзяюся, яны будуць садзейнічаць стабілізацыі эканомікі і палітычнага жыцця рэспублікі.

**В. МЕНШЫКАВА, кар. БЕЛТА.**



Пагадненне падпісваюць Старшыня Савета Міністраў Беларускай ССР В. КЕБІЧ (справа) і старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі У. ГАНЧАРЫК.
**Фота Ю. ПАЎЛАВА.** (БЕЛТА).

ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

# НІЗКІ ПАКЛОН ВАМ, ПЕРАМОЖЦЫ!



(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

Але там не было ні слова пра іншае. Ды і пачуць пра гэта іншае можна было тады, калі адкладваўся мой блакнот, спыняліся запісы і пачыналася размова «не для прэсы».

Кожнае свята Перамогі, памятаю, Васіль Міхайлавіч прыходзіў да нас у школу. Яму ўручалі кветкі, а ён каторы раз расказваў пра колькасць выпушчаных снарадаў і страты праціўніка. Але ён, разумны і граматны чалавек, усё ж ні разу не расказаў пра тое, што мы, напэўна, маглі б зразумець—пра сябе, 19-гадовага моцнага хлопца, якому хацелася жыць, якому нярэдка было страшна на смяротным балі вайны. Чаму ён маўчаў пра гэта?

Мы вельмі доўга, цэлыя дзесяцігоддзі, святкавалі веліч нашай Перамогі. Так нам было прывычней. Веліч нашых здзяйсненняў. Сусветна-гістарычнае іх значэнне. Вялікая місія. Сюды не ўпісваліся страх, сумненні, боль, бруд, закладзеная творцам у кожнага з нас чалавечая слабасць.

Мы столькі гадоў даказвалі, што мы здзейснілі. Атрымліваецца, шмат дзе мы згубілі сябе. Мы прыйшлі да таго, што аказаліся незразумелымі, непатрэбнымі са сваімі перажываннямі сваім самым блізкім людзям: «Дзед, ты навошта ваяваў? За Радзіму, за Сталіна? Сталінцы!» Як чарга ў спіну... За што?

Мы асудзілі сістэму, што столькі гадоў губіла чалавека, навязвала яму ў якасці адзіна прымальных каштоўнасцей ідэалагічныя догмы. А заадно з сістэмай мы асудзілі, няхай не так актыўна, і тых людзей, якія жылі ў ёй, якія былі ўвінчаны ў яе. Мы не зразумелі аднаго: сістэма не надта падзяляла ворагаў сістэмы на сваіх і чужых. І сёння невядома—чыіх палягло больш. І колькі атручана душаў—сваіх — напышлівасцю, размахам, пампезнасцю і — неразуменнем, адчужанасцю. Як міна запаволенага дзеяння, яны спрацоўваюць сёння. Б'юць па сваіх.

*...А нястройная калона ідзе па праспекце. Строга і шчымліва грымяць аркестры—дайно выціснутыя з нашага жыцця суперсучасным «металам». Акрамя, вядома, тых, апошніх, якія гучаць для іх, бітых і калечаных вайной, усё часцей.*

**Кацярына ШЫШЫКІНА, былая медсястра, 3-ці Беларускі фронт:**

**— Для нас галоўнае сёння— не пышнасць урачыстасці. Хацелася, вядома, хацелася б, каб болей людзей сабралася разам. І ўсё ж важней тое, што ідзём на свята сваімі нагамі, значыць, жывём!**

Заўважыла: яны, ветэраны, усё меней выстаўляюць напаказ свае ўзнагароды. Больш хваляцца ўнукамі і праўнукамі. Мы вучымся больш углядацца ў чалавечыя твары. Ці ўвойдуць гэтыя твары ў нашы падручнікі гісторыі? Альбо там паранейшаму застануцца сухія старонкі пра вялікі подзвіг?

*...Закончана шэсце. Ускладзены кветкі. Разыходзяцца ветэраны. Хто — святкаваць па праграме, прадугледжанай арг-камітэтамі былых часцей і брыгад, хто — такіх болей — дадому: выйшаў запас энергіі, прыпасенай на галоўны гадавы дзень. Шматлюдна ў суседнім з плошчай парку: «даюць» піва і цукеркі. Там моладзь і дзятва: свята для ўсіх!*

*А на самой плошчы — нямногія з герояў дня, каму не хочацца пагадзіцца з тым, што свята заканчваецца. Чародка в'етнамскіх дзяўчат абступіла сухенькую жанчыну са шматлікімі ўзнагародамі на яркай сукенцы.*

**Нгуен ЗІ ХІН, студэнтка пед-інстытута:**

**— У нас таксама святкуюць Дзень Перамогі. Усе людзі збіраюцца разам, каб усвядоміць: вайна, дзе б яна ні была, — страшна. Пра вашу вайну мы многа чыталі, бачылі фільмаў. Сёння прыйшлі паглядзець, як святкуюць у вас.**

Бачыла на плошчы ветэранаў у акружэнні маладых арабаў, японцаў... Няўжо мы ведаем пра тую вайну ўсё?..

Стары салдат не мог расказаць пра вайну так, каб яго не западозрылі ў прыніжэнні высокага подзвігу. Капітан Кісялёў не хоча расказваць пра вайну, якую пražыў ён,—занадта многа чуў папрокаў, баіцца быць непачутым. Вайна застаецца там, у салдацкіх душах. Салдаты стаяць на святочнай плошчы без нас...











## ЦЭХ ДЛЯ НАВАСЕЛЬЦАЎ

**Каля тысячы катэджаў для вёскі будзе выпускаць штогод новы цэх, мантаж якога пачаўся ў аб'яднанні «Лідабудканструкцыя».**

Тэхналагічнае абсталяванне для яго коштам 800 тысяч інвалютных рублёў пастаўлена вядомай французскай фірмай «Дэмлер». Поўнасцю аўтаматызаваная вытворчасць, для абслугоўвання якой запатрабуецца толькі каля дзесяці чалавек, закуплена гродзенскім аб'яднаннем «Азот». За гэта хімікі атрымаюць чацвёртую частку гатовых блокаў, якія пойдуць на жыллё для сваіх рабочых. Аб'яднанне выдзеліла таксама валютныя сродкі для набыцця за мяжой для вобласці найноўшага завода па выпуску 60 мільёнаў штук цэглы ў год. Цяпер вядуцца перагаворы з амерыканскімі знешнегандлёвымі фірмамі аб стварэнні на Гродзеншчыне сумеснага прадпрыемства гадавой магутнасцю 30 тысяч сучасных сельскіх катэджаў.

## СТАМАТОЛАГ— САРДЭЧНЫ СЯБАР

**У багатых свае дзівацтвы, скажуць, напэўна, гаспадарнікі сярэдняй рукі — ім жа, бедным, не пад сілу выкраіць капейку на будаўніцтва звычайнага фельчарска-акушэрскага пункта,— даведаўшыся аб адкрыцці ў аграфірме «Прагрэс» зубапратэзнай лячэбніцы.**

Каштавала яна гаспадарцы 200 тысяч інвалютных рублёў, затое і лячэнне тут на ўзроўні сусветных стандартаў. Тымі, каго лячылі дантысты, узброеныя дапатопнай бормашынай, многае ў клініцы будзе ўспрымацца як фантастыка. Аснашчанае электронікай стаматалагічнае крэсла па зададзенай урачом праграме рэгулюе становішча пацыента, апаратура працуе бясшумна і бязбольна. З гарантыяй якасці імпартны пламбіровачны матэрыял і пратэзы з металакерамікі. Словам, не лячэнне, а задавальненне. Праўда, пацыентам з іншых гаспадарак, у адрозненне ад работнікаў «Прагрэса», за яго ўсё ж прыйдзецца плаціць. Клапоцячыся аб здароўі сваіх кліентаў, работнікі гаспадарча-разліковай амбулаторыі не забываюць і аб «здароўі» аграфірмы.

## КАРБАМІД СА СПЕЦЫЯМІ

**Новыя ўгнаенні атрыманы ў гродзенскім аб'яднанні «Азот». Адразу ў некалькі рэгіёнаў краіны адправілі новае ўгнаенне — карбамід з арганічнымі дабаўкамі — гродзенскія хімікі. Дзякуючы наяўнасці гумінавых прэпаратаў навінка забяспечвае значную прыбаўку ўраджаю, прыкладна на трэць зніжае ўтрыманне ў ім нітратаў. Да таго ж, змяншаюцца затраты на транспарціроўку і ўнясенне тукаў у глебу. Бо цяпер іх патрабуецца менш.**

— Выпрабаванні паказалі, што карбамід з гуматамі аднолькава эфектыўны пры вырошчванні збожжавых, прапашных і агародніннных культур, асабліва на малаўрадлівых глебах,—гаворыць галоўны тэхнолаг аб'яднання І. Кароткі. — Так, сярэдняя прыбаўка ўраджаю бульбы склала 54 цэнтнеры з гектара, ячменю—7, азімых — 5,5 цэнтнера.

Кампаненты для новага ўгнаення пастаўляюць малое прадпрыемства «Біяхім» і калгас «Савецкая Беларусь» з суседняй Брэсцкай вобласці. Праўда, у невялікіх колькасцях. Таму іх выпуск намячаюць яшчэ некалькі гаспадарак, якія размешчаны непадалёк ад «Азота» і маюць запасы торфу.

Вось-вось прадпрыемства выпусціць на пробу і сульфат амонію з арганічнымі дабаўкамі. Ці будзе ён выпускацца «масавым тыражом» — пакажуць выпрабаванні.

## АГАРОД ПАД МЕСЯЦАМ

**Тое, што Месяц робіць прыкметны ўплыў на ўсё жывое на Зямлі, вядома здаўна. Нашы руплівыя продкі-сяляне, з павагай адносячыся да астралогіі, ведалі, напрыклад, што агародніну, прызначаную для захоўвання, трэба ўбіраць у апошняй чвэрці Месяца, а калі хочаш з'есці самы сакавіты памідор або агурок, то лепш за ўсё сарві яго, калі месяц у поўні.**

Сакрэт тут у дзвюх частках месячнага цыкла. Пры руху нашага нябеснага спадарожніка да поўні развіццё раслін, у прыватнасці агародніннных культур, ідзе асабліва інтэнсіўна. Калі ж Месяц змяншаецца ў памерах, то актыўнасць руху іх жыццёвых сокаў перамяшчаецца ў каранёвую сістэму. Значыць, выйграе той, хто ведае, у якія тэрміны месячнага календара трэба сеяць, а ў якія — убіраць ураджай. Дарэчы, як сведчаць вопытныя агароднікі, культуры, пасаджаныя ў спрыяльныя месячныя дні, у тры, чатыры разы больш ураджайныя за тыя, што ляглі ў зямлю, так сказаць, без уліку астралогіі.

Ну, а разабрацца ў гэтых тэрмінах дапаможа брашура «Месячны пасяўны каляндар агародніка» (выдавецтва ЦК КПБ, складальнікі М. Ф. Давыдзік і Н. М. Жылінскі), якая нядаўна выйшла. Парады, змешчаныя ў ёй, разлічаны на ўсе прыродна - кліматычныя зоны нашай краіны. Брашура прадаецца толькі ў кіёсках «Саюздруку». Неабходна адзначыць, што значная частка прыбытку ад яе рэалізацыі паступіць у фонд «Дзеці Чарнобыля» і ў Фонд дапамогі інвалідам.

**М. ФЕДАРЧУК, член Саюза журналістаў СССР.**

**(БЕЛТА).**

# ЗРОБІМ КРОК У СТАГОДДЗЕ ГУМАНІТАРНЫХ ВЕДАЎ?

**Дэпалітызацыя, дэідэалагізацыя, дэпартызацыя сферы адукацыі. «Круглы стол» на гэту тэму адбыўся ў «Звяздзе». Сваімі думкамі абмяняліся першы намеснік загадчыка гуманітарнага аддзела ЦК КПБ М. Фядзеня, намеснік міністра народнай адукацыі БССР Г. Бутрым, акадэмік АН БССР, загадчык кафедры гісторыі філасофіі БДУ імя У. І. Леніна А. Міхайлаў, намеснік сакратара парткома, дацэнт кафедры палітычнай гісторыі Беларускага інстытута народнай гаспадаркі В. Галубовіч, намеснік сакратара парткома, дацэнт кафедры палітэканоміі Мінскага радыётэхнічнага інстытута В. Кур'ян, старшыня Цэнтральнага савета Беларускай рэспубліканскай піянерскай арганізацыі імя У. І. Леніна У. Грыдзюшка, рэдактар газеты «Звязда» У. Наркевіч.**

**У. Наркевіч:** Тэма нашай гутаркі адна з тых, якія выклікаюць сёння найбольш спрэчак. Магчыма, у нашай размове мы і не прыйдзем да нейкіх адназначных вынікаў, ды і нельга, відаць, адразу расставіць усе кропкі над «і», бо жыццё развіваецца і ўносіць свае карэктывы. Але прынцыповыя падыходы мы павінны абазначыць як для саміх сябе, так, напэўна, і для чытачоў газеты.

**М. Фядзеня:** Я хацеў бы прапанаваць наступнае кола пытанняў. Першае — гэта сэнс ідэй дэпалітызацыі, дэідэалагізацыі школы, якія падкідваюць нам нашы палітычныя апаненты. Далей, праблемы выкладання гуманітарных і сацыяльна-палітычных навук. Як ва ўмовах многапартыйнасці павінны дзейнічаць выкладчыкі, асабліва выкладчыкі-грамадазнаўцы. Выхаванне ва ўмовах многапартыйнасці—ці можа яно быць дэідэалагізаваным, і якіх прынцыпаў павінны прытрымлівацца выкладчыкі, улічваючы, што яны могуць быць у розных палітычных партыях?

Наступнае—прынцыпы рэгламентацыі палітычнай дзейнасці ў навучальных установах.

Асабіста я разумею, што за ідэяй дэпалітызацыі школы стаіць адно: выцесніць з яе сцен партыйныя, камсамольскія, піянерскія арганізацыі. Зрабіць школу палітычна нейтральнай. А канчатковая мэта — забараніць там дзейнасць членаў КПСС і камсамола.

Дарэчы, некалькі слоў наогул аб тэрмінах «дэпалітызацыя» і «дэідэалагізацыя». Яны азначаюць з улікам сэнсу прыстаўкі «дэ»—канец палітыкі, канец ідэалогіі. Зрабіць школу стэрыльнай ад палітыкі, ідэалогіі. Ці магчыма такое ў палітызаваным грамадстве? Наўрад. Ідэя дэідэалагізацыі—не новая ідэя. Як вядома, яна была шырока распаўсюджана ў 60-я гады ў буржуазнай сацыялогіі. Сёння яе адтуль спрабуюць перанесці на нашу глебу, забыўшыся пра тое, што самі буржуазныя сацыёлагі адмовіліся ад яе. Адмовіліся, бо зразумелі, што без ідэалогіі — сістэмы поглядаў, ідэй, каштоўнасцей — нельга жыць у грамадстве.

Тым самым я сцвярджаю, што гэты тэрмін надуманы. А вось навошта ён прыдуманы, пра тое і трэба паразважаць.

**Г. Бутрым:** Перад школай, і вышэйшай у тым ліку, стаіць задача не толькі даць веды, але і выхаваць грамадзяніна. Ізаляваць вучняў, студэнтаў ад тых палітычных працэсаў, якія адбываюцца ў грамадстве, нельга. Нават, каб і хацелі гэтага. І тут размова можа ісці не аб дэпалітызацыі, а аб перапалітызацыі. Бо вакууму быць не можа.

Выхаванне малодзі ўвогуле складаная справа, а зараз, калі разбураюцца многія і не толькі ўяўныя ідэалы, — тым больш. Сітуацыя ўскладняецца і тым, што многія выхавальнікі, настаўнікі, выкладчыкі не могуць быць сапраўднымі дарадцамі сучаснай моладзі, таму што самі ніяк не пазбавяцца ад догмаў, старых уяўленняў, кансерватыўнасці. Яшчэ горш, калі некаторыя педагогі падладжваюцца пад настрой моладзі, падыгрываюць ёй на хвалі негатывізму. Кантактуючы з вучнямі, студэнтамі, трэба быць выключна шчырымі, дапамагаць ім аб'ектыўна разабрацца ў праблемах сённяшняга і заўтрашняга дня, развіваць іх ініцыятыву, самастойнасць, спрыяць актывізацыі дзейнасці розных аб'яднанняў, арганізацый моладзі.

Дарэчы, некалькі слоў пра дзейнасць вучнёўскіх і студэнцкіх грамадскіх арганізацый, у прыватнасці, піянерскай.

Сёння Беларуская рэспубліканская піянерская арганізацыя—гэта самастойная грамадская арганізацыя дзяцей, падлеткаў і дарослых, якая зарыентавана на агульначалавечыя каштоўнасці, ідэалы гуманізму, дабра і справядлівасці. Часта крытыкі гэтай дзіцячай арганізацыі не заўважаюць перамен, якія ў ёй адбываюцца. І зыходзячы са старых стэрэатыпных падыходаў, выступаюць супраць яе існавання. Хоць мы гатовы ствараць умовы і для іншых арганізацый, у тым ліку і скаўцкіх. Бо і ў першых, і ў другіх у многім мэты аднолькавыя—выхаваць грамадзяніна, высокамаральнага чалавека. Адмаўляць каму-небудзь з іх у існаванні прынамсі непедагагічна.

**У. Наркевіч:** Вы ведаеце, мы многа можам гаварыць аб агульных праблемах. Але хацелася б звярнуць увагу і на канкрэтнае. У многіх школах, у прыватнасці мінскіх, ужо няма камсамольскай арганізацыі, піянерскія мерапрыемствы практычна не праводзяцца. Гэта з аднаго боку. З другога—нядаўна мы апублікавалі інфармацыю аб тым, што ў Львоўскай вобласці ўсяго адзін піянер,—гэта высветлілася пры рэгістрацыі піянерскай арганізацыі. Чаму так адбываецца? Якая сітуацыя ў Беларусі?

**У. Грыдзюшка:** Сапраўды, крайнасці ў поглядах сталі адметнай рысай нашага часу. Але там, дзе ёсць дзеці, там гэтых крайнасцей быць не павінна. Калі весці размову аб выцісканні піянерскай, камсамольскай ці іншай арганізацыі за межы школы, то гэта ёсць не што іншае, як нонсенс, як антыгуманны, антыдэмакратычны факт. Бо кожная арганізацыя ў дэмакратычнай дзяржаве павінна сама для сябе вызначаць месца базіравання.

Што датычыць самога тэрміну дэпалітызацыя, то, на мой погляд, ён проста надуманы. Гэта з аднаго боку. А з другога, ён носіць суб'ектыўны характар. Бо розныя людзі маюць рознае разуменне, рознае ўяўленне наконт гэтага. Вазьміце, скажам, выхаванне грамадзяніна. Гэта палітыка ці не? Палітыка. А выхаванне патрыёта сваёй Радзімы? Таксама палітыка. Ці арыентацыя на агульначалавечыя каштоўнасці—хіба гэта не ідэалогія? Ідэалогія.

**М. Фядзеня:** Я хацеў бы прывесці дзве цытаты, якія мяне ўсхвалявалі да глыбіні душы. Вось часопіс ЦК ЛКСМБ «Крыніца», леташні нумар за лістапад—снежань. У ім З. Пазняк піша: «Трэба як найхутчэй спыніць палітызацыю дзяцей, нейкую варварскую гульню ў піянераў, акцябрат, «Зарніцу» і г. д. Гэта злачынства супраць цэлых пакаленняў». Цяпер заглянем у штотыднёвік «Дзеці і мы» № 2, 1991 г.—газету Беларускага дзіцячага фонду. Быццам бы ва ўнісон тут піша другі народны дэпутат—Я. Цумараў: «Піянеры, акцябраты, юныя ленінцы... Калі на сцяг арганізацыі падняты вобраз, які створаны пад найменнем Паўліка Марозава, то чаго вартыя ідэалагічная падкладка і маральны ідэал такой арганізацыі. І ўвогуле, ці сумленная гэта справа ўцягваць дзяцей у палітычную барацьбу? Верагодна, прыйшоў час прыпыніць дзейнасць усіх дзіцячых палітычных арганізацый, як, зрэшты, і вывесці ўсе палітычныя структуры з навучальна-педагагічных устаноў рэспублікі». Тут, як кажуць, каментарыя не трэба, бо наўрад ці аўтары выказванняў цікавіліся думкамі саміх піянераў. Уладзімір Паўлавіч, цікава, а якія ў вас адносіны да такіх выказванняў? Мне асабіста здаецца, што падобная лінія — працяг тых разбуральных тэндэнцый, што, на жаль, усталяваліся ў нашым грамадстве: спачатку разбурым, а потым думаем, як нешта стварыць.

**У. Грыдзюшка:** Згодзен з вамі. Такія заклікі — не што іншае, як злачынства супраць тых жа дзяцей. Гэта можна расцэньваць як уцягванне іх у палітычныя гульні дарослых.

**В. Кур'ян:** На мой погляд, мы не павінны адмахвацца ад неабходнасці пазбавіцца ад залішняй ідэалагізацыі нашага жыцця. Бо ў нас усё ж засілле старой ідэалогіі і дагматызму. Было і такое: піянеры віталі з'езды, дарылі кветкі. Хіба гэту гіпербалізаваную ідэалагізацыю не парадзіла ідэалагізацыя ўвогуле? Дэідэалагізацыя—гэта не проста падкопы нейкіх ворагаў, гэта і вынік нашых памылак. Таму, мне здаецца, дэідэалагізацыя — гэта ў пэўнай ступені рэальная праблема, якую стварылі мы самі.

Цяпер аб дэпалітызацыі. Маецца на мэце ліквідаваць манаполію КПСС на арганізацыю палітычнай дзейнасці ў ВНУ, школе. Будзем шчырыя—яна ёсць, гэта гістарычна склалася. Хіба мы не павінны сёння адыходзіць ад гэтага? Хіба не наша задача знайсці менавіта тое месца партыйнай арганізацыі, якое не давала б падстаў папракаць яе ў манапалізме?

Змены, якія адбыліся і ў партыі, і ў краіне ўвогуле, дапамагаюць зняць гэту праблему. Партком у Мінскім радыётэхнічным інстытуце не перашкаджае тым, у каго ёсць жаданне арганізаваць штосьці сваё, сваю арганізацыю. Мы не абмяжоўваем палітычныя правы ні выкладчыкаў, ні студэнтаў. Тым больш не ставім задачу з дапамогай сілы захаваць манапольнае становішча парткома. Мы гатовы супрацоўнічаць з любой палітычнай арганізацыяй, якая дзейнічае на аснове Канстытуцыі БССР. Мне здаецца, што дэпартызацыю жыцця вышэйшай школы нельга разумець як забарону дзейнасці любых арганізацый. Але тут павінен захоўвацца прынцып: усе арганізацыі ў ВНУ ўстрымліваюцца ад уцягвання моладзі ў акцыі, якія перашкаджаюць навучальнаму працэсу. Інакш, калі хтосьці з іх заклікае да байкоту, акцый непадпарадкавання, рашэннем вучонага савета інстытута, дзейнасць такой арганізацыі ў сценах ВНУ можа і павінна быць забаронена.

Цяпер што датычыцца дэідэалагізацыі. Крызіс марксізму—гэта агульнавядомая рэч. Гэта тое, ад чаго нельга адмовіцца, гэта аб'ектыўная рэальнасць, якая вельмі сур'ёзна ўплывае на становішча спраў у ВНУ.

ВНУ павінны быць полем спаборніцтва розных ідэалагічных школ, павінны ўключаць у свае праграмы вывучэнне розных ідэалагічных дактрын.

**А. Міхайлаў:** Я вельмі засмучаны тым кантэкстам, у якім адбываецца палеміка ў нашым грамадстве наогул, па любому пытанню: рынак, знешняя ці ўнутраная палітыка, дэмакратыя, іншае. Усё гэта толькі ў рэжыме канфрантацыі. І вось я баюся, што нам у нашай размове нельга быць прыкладам таго, калі не чуюць апанентаў, спрабуюць абысці вострыя вуглы, затушаваць сэнс праблемы — толькі б працідзейнічаць новым для нас працэсам. Я думаю, што гэта наогул непрадукцыйная размова. Наша грамадства знаходзіцца на такой стадыі развіцця, што будзе пагібельным не знайсці агульнай мовы паміж апанентамі ці праціўнікамі. І спрабаваць сёння ўзмацняць канфрантацыю, напэўна, неразумна. А калі нам навязваюць такога роду палеміку, то мы павінны знайсці ў сабе дастаткова мудрасці, каб не адказваць тым жа. Гэта не прывядзе ні да якога эфекту. Ну, а шараханне з адной крайнасці ў другую з'яўляецца, на жаль, нормай жыцця нашага грамадства—гэта ўвогуле сведчанне дастаткова нізкага ўзроўню нашай культуры.

Дык вось, калі мы дапусцім суіснаванне розных ідэалогій, розных палітычных ліній у ВНУ, у сярэдняй школе, ці не прывядзе гэта да канфрантацыі? Ці не абвострыць і без таго такую абстаноўку, якая паставіла нас ужо на мяжу катастрофы і краху? Гэта вельмі рэальная для нас небяспека. І, відаць, існуе яна толькі таму, што ў нас палітычная культура, на жаль, не апіраецца на агульную культуру. Бо да апошняй мы яшчэ і не падыходзім, яе няма. Гэта трагедыя нашага грамадства. І я наогул далёкі ад ілюзіі, што можна чакаць нейкіх радыкальных перамен.

**М. Фядзеня:** Выкажу сваю думку наконт рэгламентацыі палітычнай дзейнасці ў навучальных установах. Лічу, што ў школе могуць існаваць тыя грамадскія аб'яднанні, якія зарэгістраваны ва ўстаноўленым законам парадку, строга выконваюць канстытуцыйныя палажэнні і савецкае заканадаўства, садзейнічаюць адміністрацыі, органам кіравання ў ажыццяўленні дзяржаўнай палітыкі ў галіне адукацыі і выхавання. Што датычыць педагагічных работнікаў, то іх абавязак—праводзіць гэту палітыку, незалежна ад таго, да якой партыі яны належаць і якіх палітычных поглядаў прытрымліваюцца.

Безумоўна, у рыхтуемым зараз для ўнясення на абмеркаванне чарговай сесіі Вярхоўнага Савета БССР законе «Аб адукацыі ў Беларускай ССР» пэўным чынам трэба абгаварыць гэтыя моманты.

Дарэчы, з'явілася некалькі праектаў законаў аб адукацыі ў Беларускай ССР. Адзін з іх апублікаваны ў газеце «Вячэрні Мінск» 14 лютага г. г. Ён падрыхтаваны групай народных дэпутатаў БССР з удзелам педагагічнай грамадскасці. У артыкуле 3 адзначана: «У дзяржаўных установах адукацыі і выхавання ўсіх тыпаў забараняецца дзейнасць любых структур палітычных партый і аб'яднанняў. І другое: у вучэбныя планы такіх навучальных устаноў не могуць уключацца дысцыпліны, заснаваныя на ідэалагічных дактрынах якіх-небудзь партый або іншых палітычных аб'яднанняў». Вось вам дэідэалагізацыя, якая мае на мэце абмежаваць уплыў і партыйных структур, і ідэалогіі ў навучальных установах. Але такім чынам мы рызыкуем наогул страціць гуманітарны цыкл у ВНУ, бо ў лік «ідэалагізаваных» дысцыплін можна залічыць і буквар, і паліталогію, і палітэканомію, і палітычную гісторыю і г. д. Тут я хацеў бы адзначыць, што больш дэмакратычна, больш цывілізавана гэтыя пытанні адлюстроўваюцца ў праекце закона, падрыхтаванага творчым калектывам Мінадукацыі БССР. Прывяду вытрымкі з некаторых артыкулаў: «Асобы, якія ажыццяўляюць кіраванне навучальнымі ўстановамі, органамі адукацыі, у сваёй дзейнасці кіруюцца патрабаваннямі законаў і не звязаны з рашэннямі палітычных партый і іншых грамадскіх аб'яднанняў». Далей. «Светапоглядная падрыхтоўка навучэнцаў і студэнтаў ажыццяўляецца на аснове разнастайнасці ідэалагічных канцэпцый і падыходаў, сусветнай грамадскай практыкі і права кожнага на асабістыя думкі, меркаванні, ацэнкі». І яшчэ. «Педагагічныя работнікі павінны ўстрымлівацца ад выкарыстання навучальнага працэсу, свайго становішча ў палітычных мэтах і для прымусу да дзеянняў, якія супярэчаць Канстытуцыі БССР».

Вось і вырашайце самі, які з двух падыходаў больш прымальныя.

**В. Галубовіч:** На мой погляд, марксізм-ленінізм мы павінны вывучаць разам з іншымі дасягненнямі перадавой грамадскай думкі. Але я хачу звярнуць увагу ўдзельнікаў «круглага стала» на пэўную сувязь зместу паняцця дэідэалагізацыі з працэсамі гуманітарызацыі, якія разгортваюцца ў вышэйшай школе. І папярэдзіць аб наступленні тэхнакратычнага мыслення ў ВНУ. Гэта іншая крайнасць, якая можа прывесці да непапраўных вынікаў у будучым. Колькасць гадзін на гуманітарныя дысцыпліны рэзка скарачаецца. Цяпер паглядзіце, што мелі ВНУ царскай Расіі. Маскоўскі камерцыйны інстытут. Вучэбны план 1910—1911 г.г. Палітэканомія—560 гадзін у год, у нас па старому плану—300. Сусветная і айчынная гісторыя—240 гадзін. Мы ж арыентуемся на 70.

**А. Міхайлаў:** Я знаёмы з вопытам работы ВНУ многіх заходніх краін. Там ёсць розныя падыходы. Але што агульнае—гэта тое, што адна трэць вучэбнага часу адводзіцца на гуманітарныя навукі. Вядомы французскі філосаф Клод Левістрос сказаў аднойчы: XXI стагоддзе будзе стагоддзем гуманітарных ведаў, калі яно будзе наогул. Вось гэты паварот да гуманітарных ведаў на Захадзе вельмі адчувальны. Бо грамадства выходзіць на такія рубяжы, калі неабходны зусім іншыя глыбокія ўяўленні як аб прыродзе чалавека, так і аб жыцці сацыяльнага арганізма наогул.

